


Знікаюць з садоў апошнія яблыкі, пусцеюць дрэвы — вось сумныя прыкметы надыходзячых халадоў. Фота — яч.

№ 43 (1106) ГАЗЕТА БЕЛАРУСКІХ ДЗЯЦЕЙ У ПОЛЬШЧЫ 22.X.1978 г.

**К. Кірэенка**




Два хлопчыкі ішлі ў школу.

Раптам яны спыніліся сярод вуліцы і, наскакваючы адзін на аднаго, пачалі спрачацца.

— А я... — крычаў адзін на ўсю вуліцу. — А я... Ды ты ведаеш ці не!.. Калі б я захацеў... Я мог бы зрабіць такую мадэль ракеты... Да Месяца даляціць!..

— А я... — хваляваўся другі. — А я атамную падлодку зраблю... Калі захачу... Я, ведаеш... Я што магу...

— А я... Я нават сапраўдную ракету зрабіў бы... Калі б узяўся... Падумаеш... Я, калі захачу...

— А я... Ды ты ведаеш... Хвалько ты!..

— Сам хвалько! А я...

— А я... А я вам не веру! — нечакана пачулі хлопчыкі над сваімі галовамі зычны басавіты голас.

Разгубленыя, яны ўзнялі галовы.

Побач стаяў высокі мажны дзядзька ў вайсковай марацкай форме.

— Так, так, сябры мае. Я вам не веру, — ужо больш лагодна паўтарыў ён. — Хіба ж можна выхваляцца? Хто многа хваліцца, той мала робіць. А вось адкажыце, сябры, вы ўрокі на сёння вывучылі?

Хлопчыкі маўчалі. Нарэшце адзін з іх няўпэўнена прамовіў:

— Вывучылі...

— А якія ў вас былі апошнія адзнакі?

— ...

— Няма чым хваліцца, так?

— А я... — зноў пачаў было адзін хлопчык, ды асекся.

— А я... — хацеў сказаць нешта і другі, але таксама змоўк.

— А я, — сказаў марскі капітан, — прыехаў у госці да сваёй маці. Вунь у тым доме жыве... Валянціна Лапіцкая.

— Дык вы ж капітан Лявон Лапіцкі! — у адзін голас выгукнулі хлопчыкі. — Мы пра вас у газеце чыталі... І ў школе нам пра вас расказвалі!..

— Дык вось, дарагія мае хлопчыкі, — сказаў капітан. — Прыехаў я да маці ажно на дзесяць дзён... Хочаце сябраваць? Хочаце даведацца, як будуюцца падводныя лодкі і ракеты і колькі чаго трэба ведаць, каб іх пабудаваць і разумна імі кіраваць?

— Хочам!.. Хочам!.. — узрадавана адказалі хлопчыкі.

— А калі хочаце — дык хутчэй бяжыце ў школу. А пасля ўрокаў — заходзьце да мяне. Кватэра нумар пятнаццаць. Згода?

Ужо на хаду адказаўшы „згода!“, хлопчыкі стрымгалоў памчалі ў бок школы. Зноў яны адзін аднаму нешта даказвалі. Але капітан, які назіраў за імі, быў упэўнены, што дзеці не спрачаюцца, а нешта горача абмяркоўваюць. Яго думкі пацвердзіліся: перад самой школай дзеці раптам спыніліся і моцна пацiснулі адзін аднаму рукі.

Капітан задаволена ўсміхнуўся і сам сабе сказаў:

„А я.. А я павінен зайсці ў бібліятэку і пачытаць кнігі пра караблі і ракеты. Бо мне трэба так ім пра ўсё расказаць, каб гэта засталося на ўсё жыццё... Хто ведае, можа гэтыя хлопчыкі і на самай справе стануць найвыдатнейшымі будаўнікамі караблёў і ракет...“

**Ю. Ярмыш**

# ЧЫЯ ШАПАЧКА?

Ляжала на сцяжынцы шапачка. Кошка ўбачыла шапачку.

— Мяў, мяў! Якая прыгожая шапачка!

Нацягнула кошка шапачку на галаву. Не чуваць у ёй, як мышка шапаціць у куточку.

— Мяў, як шкода! Шапачка вушы закрывае, — засмуцілася кошка.



— Ку-ка-рэ-ку! — уцепіўся певень. — Цудоўная шапачка!

І надзеў яе.

— Як шкада! — ледзь не расплакаўся певень. — Шапачка закрывае мой грабеньчык.





— Му-му! Дай мне-е-е памерыць шапачку! — папрасіла карова.

Начапіла яна шапачку і глянула ў ночвы з вадой, як у люстра.

— Н-не, на маіх рагах шапачка не ўтрымаецца!

Нацягнуў шапачку сабака.

— Р-р-р! Цудоўная гэтая чырвоная шапачка, але мне не пасуе! Мае вушы павінны заўсёды тырчаць, каб лепш было слухаць. Я ах-хоўваю двор!

Паклаў сабака шапачку ля парога і сеў побач.

Выйшаў на двор хлопчык, ад радасці заскакаў.

— Мая шапачка. Мама мне купіла, а я згубіў!



**Яўген Курто**




# Зоя

**(Успаміны з мінулага)**

Яна ўцалела адна.

Адна-адзіная з усёй Баравіны.

Калі на Баравіну наляцелі карнікі, Зоі не было дома. Якраз за дзень да гэтага маці паслала яе ў Бярозаўку, што была аж за васемнаццаць кіламетраў ад Баравіны. Там жыла Зоіна цётка Палага. Час ад часу яна наведвалася ў нямецкі гарнізон і на сала або яйкі выменьвала соль. У баравінцаў такой магчымасці не было, бо немцы лічылі іх вёску партызанскай, і ўсіх, хто з'яўляўся ў гарнізоне, затрымлівалі, а потым адпраўлялі ў Германію або канцэнтрацыйны лагер. А таму соль баравінцы даставалі цераз другіх людзей, тых, што жылі ў гарнізоне або непадалёк ад яго.

Дастаць хоць трошкі солі маці паслала ў Бярозаўку і Зою.

Вярнуўшыся ад цёткі Палагі, Зоя не ўбачыла ні Баравіны, ні людзей. Абапал вуліцы стаялі закураныя коміны, а ля іх чарнелі груды галавешак. Пажоўклі, абвугліліся прыдарожныя клёны, скурчылася ў перадсмяротных сутаргах лістота ў прысядзібных садах. Нідзе не рыпне калодзежны журавель, не зашчабеча весялуха-птушка.

Пуста.

Мёртва.

Толькі ў адным месцы, там, дзе ўчора раніцай стаяла вялізнае калгаснае гумно, курыўся слабы дымок. З цяжкасцю перастаўляючы ватныя ногі, Зоя накіравалася туды. Уся зямля была ўсыпана стрэлянымі гільзамі — большымі, ад кулямётаў, і невялічкімі, аўтаматнымі. На таку гумна ляжалі чалавечыя чарапы і шкілеты.

Зоя застыла ў нерухомасці. Яна зразумела ўсё: спалілі фашысты Баравіну разам з людзьмі. Загналі старых і малых у гумно і запалілі. А калі хто спрабаваў вырatавацца, расстрэльвалі з кулямётаў і аўтаматаў. Там, на таку, і косці яе бацькоў, а недзе каля іх, побач, костачкі самага малодшага ў сям'і пяцігадовага Васілька...

На нейкі момант паўсталі перад вачыма натруджаныя, у мазалях і вузлаватых жылах, бацькавы рукі, добрая, заўсёды крышку журботная ўсмешка маці і не па-дзіцячаму сур'ёзны погляд брацікa.

Няўжо іх ужо няма?

І ніколі-ніколі не будзе?

А як жа яна, адна, без іх сярод гэтага страшнага папялішча?

Ад роспачы хацелася нема крычаць, заліцца слязьмі ў нястрымным галашэнні. Але ні крык не ішоў з горла, ні слёзы не ліліся. Унутры ў Зоі ўсё нібы закамянела. Толькі сэрца сціскалася балюча-балюча і не давала ўздыхнуць на поўныя грудзі.

Дзяўчынка нізка пакланілася папялішчу і пайшла. Пайшла не па дарозе, бо дарога прывяла ў іхнюю Баравіну лютую смерць. Можа зараз па ёй шныраць звяругі-карнікі. Зоя напрасткі цераз поле ўзяла кірунак на лес.

Яна яшчэ не ведала, ды і не думала пра тое, куды ідзе і дзе спыніцца, але добра ўсведамляла адно — лес цяпер яе самы лепшы, самы надзейны друг.

Лес сустрэў дзяўчынку шматгалосым птушыным шчэбетам, але яна яго не чула. Лясныя палянкі густа чырванелі буйнымі суніцамі, але Зоя іх не заўважала, хаця колькі ўжо часу ў яе роце не было і макавай расінкі.

Утаропіўшыся нерухомымі вачыма ў адну кропку, яна ішла і ішла, пакуль не адчула, што ногі ў каленях падгінаюцца. Тады села, абаперлася спіной аб цёплы камель сасны і заплюшчыла вочы. Павольна ў грознай няўмольнай маўклівасці на яе наплыло чорнае



гумнішча з грудай чарапоў на таку. Дзяўчынка страпянулася, дзіка ўскрыкнула і адкрыла вочы.

Яна зноў звяла вейкі і зноў страпянулася. Але ўжо не ад жудаснага відовішча, а ад таго, што недзе зусім блізка недалёка фыркнуў конь. Першай думкай было — схавацца. Зашыцца пад куст які ці папаратнік і не варушыцца, нават не дыхаць. Ды вось бяда — ні кустоў, ні густога папаратніку паблізу не расло. Бор быў голы, як бубен — адны сосны, а пад імі шэры мох. Лепш было не кратацца з месца, каб не выдаць сябе.

Збоку данеслася:

— Слухай, Хвёдар, а можа гэта не дзіцячы крык, можа, заяц. Яны таксама неяк па-дзіцячаму крычаць...

— Эт, гаворыш... Я ж, можа, вясковы паляўнічы, а не студэнт з горада, як некаторыя... Недзе тут дзіця крычала...

Тупалі, пафырквалі коні, чулася гаворка. „Хоць бы не паліцаі, не карнікі“, — бездапаможна тулячыся да сасны, думала Зоя.

— Дык вось яна, малеча! — радасна гукнуў над галавой густы бас. — Ты чаго крычала? Напалохаў хто?

Спалохана ўзняла вочы і ўбачыла двух коннікаў з аўтаматамі на грудзях — аднаго пажылога, вусатага, другога зусім яшчэ маладога, амаль хлапчука.

— Адкуль будзеш? — зноў запытаў бас.

— З Баравіны, — прашаптала Зоя.

— Тады ўсё ясна, — саскочыўшы на зямлю, павольна прагаварыў вусаты. Ён асцярожна, нібы Зоя магла зламацца, падняў яе на рукі і перадаў маладзейшаму. — Садзі перад сабой у сядло і хутчэй у лагер. Цётцы Дашы адразу перадасі. Бач ты ўчарнела ўся, нібы той вугалёк... Эх! — і адвярнуўшыся пачаў нервова скручваць цыгарку.

Толькі цяпер дзяўчынка заўважыла на шапках коннікаў саматробныя зорачкі, і на сэрцы ў яе крыху адлягло: свае, партызаны...

**(Працяг у наступным нумары)**



# ПАГЛЫБЛЯЙ



# СВАЕ ВЕДЫ



## ВОЖЫКІ

З вялізным паважаннем я адношуся да жывёл-бацькоў. У час маіх вандровак мне не раз здаралася замяняць маці многім зверанятам, і я заўсёды лічыў, што вельмі нялёгкая гэта справа.

Упершыню я выступіў у ролі прыемнай маці для чатырох вожыкаў. Вожычыха — вельмі добрая маці. Яна рыхтуе сапраўдную пасцель для сваіх малых, гняздо высцелена тоўстым пластом сухога лісця. Тут прыходзяць на свет сляпыя і бязрадныя вожыкі. Малыя пакрыты густой шчоткай белых і мяккіх, нібы гума, калючак. Толькі пасля таго, як вожыкам споўніцца некалькі тыдняў, калючкі цвярдзеюць і робяцца карычневымі.

Калі малыя падрастаюць, маці выводзіць іх з гнязда. Яны ідуць адзін за другім, і кожны трымае ў зубах хвост ідучага спераду. А першы вожык на чале калоны, старанна трымаецца за хвост маці.

Магчыма, што маці-вожычысе зусім не цяжка выхоўваць сваіх малых, але калі мне неспадзявана падарылі чатырох сляпых, белых, пакрытых гумавымі калючкамі вожыкаў, я разгубіўся.

Мы жылі ў той час у Грэцыі. Сусед-селянін прынёс нам гняздо вожыкаў велічынёй з футбольны мяч. Ён выкапаў яго ў полі, працуючы там. Малых трэба было адразу ж накарміць, але смочак ад звычайнай дзіцячай бутэлькі быў завялікі для іх. На шчасце, у маленькай дачушкі майго сябра знайшоўся смочак для лялькі.

Вожыкі прызвычаіліся да яго і хутка папраўляліся.

Спачатку я трымаў іх у высокім кардонным карабку. Але хутка зразумеў, што лісце ў ім трэба змяняць дзесяць-дванаццаць разоў у дзень. Няўжо маці-вожычыха цэлы дзень бегае туды-сюды з сухім лісцем, каб утрымаць сваё гняздо ў чысціні? Калі гэта так, дык калі ж яна знаходзіць час карміць сваіх малых?

Што датычыць маіх гадаванцаў, яны гатовы былі есці ў любы час дня і ночы. Варта было толькі падысці да карабка, як з лісця высоўваліся востранькія мордачкі, чуўся дружны піск, і маленькія насы пачыналі адчайна круціцца ва ўсе бакі ў пошуках бутэлечкі.

Звычайна, малыя зверaняты, наеўшыся, супакойваюцца, але да вожыкаў, па-мойму, гэта не адносіцца. Яны кожны раз кідаюцца на сваю бутэлечку, нібы галадалі шмат тыдняў. Цяпер я разумею, што ўсё-ткі я перакормліваў вожыкаў, таму што іх малюсенькія ножкі ўжо не вытрымлівалі іх цяжару. Вожыкі ледзь перасоўваліся па дыване, цягнучы па зямлі тоўстыя брушкі.

Але раслі яны вельмі хутка, ногі рабіліся мацнейшымі, вочы адкрыліся. Часам яны нават здабываліся на адважныя вылазкі з карабка.

Я вельмі ганарыўся маёй калючай сямейкай і з нецярплівасцю

чакаў, калі змагу іх вывесці ў лес і пачаставаць такімі ласункамі, як слімакі і суніцы.

Але здарылася так, што мне давялося паехаць на цэлы дзень.

Малых я быў вымушаны пакінуць пад апекай сястры.

Перад ад'ездам я прасіў яе ні ў якім разе не даваць ім больш адной бутэлечкі малака ў дзень, як бы яны не пішчалі.

Я павінен быў лепш ведаць сваю сястру. Калі я вярнуўся, яна вінавата паглядзела на мяне.

Мучачыся страшным прадчуваннем, я спытаў яе, колькі яна давала ім малака за адзін раз. „Чатыры бутэлечкі кожнаму, — адказала яна, — паглядзі, якія тоўсценькія яны зрабіліся".

Не згадзіцца з ёй нельга было. Іх маленькія брушкі так раздзьмуліся, што ногі не даставалі да зямлі. Яны былі падобны на дзіўныя мячыкі, да якіх нехта прычапіў чатыры нагі і нос.

Я зрабіў усё, што мог, але праз суткі ўсе яны памерлі ад вострага запалення кішак.

Сястра перамалася больш за ўсіх. Па тым ледзяным выглядзе, з якім я прыняў яе просьбу аб прабачэнні, яна зразумела, што я ніколі не даверу ёй малых гадаванцаў.

**Дж. Дарэл,**
**заолаг і пісьменнік.**



**Дзеці з прадшколля ў Белавежы на занятках фізкультуры са сваёй выхавацелькай Марыяй Грынчаль.** **Фота — яч.**

## Пазнаёмімся

* ✲ *

Анна Янюк, вучаніца трэцяга класа, 17-200 Гайнаўка, вул. Гаёва 21, Беластоцкае ваяводства.

* ✲ *

Гэлена Янюк, вучаніца сёмага класа, 17-200 Гайнаўка, вул. Гаёва 21, Беластоцкае ваяводства.

* ✲ *

Ліля Карпюк, вучаніца пятага класа, в. Кутавая 7, 17-212 Ласінка, Беластоцкае ваяводстыа.

* ✲ *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Купрыянава, 17, кв. 57. Лена Аванесян, 12 гадоў.

* ✲ *

БССР, 220074, г. Мінск-74, вул. Адоеўскага, 41, кв. 34. Наташа Сіліч, 13 гадоў.

* ✲ *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Купрыянава, 17, кв. 5. Эльміра Нурыева, 9 гадоў.

* ✲ *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Каржа, 15/13, кв. 10. Рыма Врублеўская, 12 гадоў.

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Волаха, 15, кв. 11. Сяргей Бародка, 8 гадоў.

* ✲ *

БССР, 220037, г. Мінск-37, вул. Фролікава, 41, кв. 87. Марына Абдулаева, 9 гадоў.

* ✲ *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. К. Лібкнехта, 98, кв. 23. Галя Бязмен, вучаніца пятага класа.

* ✲ *

Пётр Якубюк, вёска Навіны, пошта 17-212 Ласінка, Беластоцкае ваяводства.

## КНІЖНЫЯ ЎЗНАГАРОДЫ

**За прыгожую расфарбоўку зайцавага малюнка кніжныя ўзнагароды атрымалі: Іра Лаўнічук з Лукі, Аня Сцепанюк, Гэлена Ляшэўская, Аня Мартынюк, Андрэй Смалеўскі, Янка Рудэчка, Аля Тарасюк, Валя Касьянюк, Яўгенія Паплаўская, Бася Канеўская з Плёсак, Марыя Антанюк з Цялушак, Веся Малішэўская з Сухініч, Аля Петручук з Гукавіч, Іра Рэент з Ляшукоў, Галя Чурак з Беластока, Галіна Петручук з Гукавіч і Малгося Чэрняк з Гайнаўкі.**




Адрас рэдакцыі: „Зорка“, 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1.